# ПЕСЬНІ ДУХОЎНЫЯ

## З ГАРФЫ СІОНСКАЙ.

## СЬПЕЎНІК ДЛЯ БЕЛАРУСАЎ.

Сьпявайце Господу песьню новую. —
Пс. 98. I.

Будзьце напоўняны Духам, размаўляючы з сабою, сьпяваючы і граючы ў сэрцы сваём Господу псалмы, гімны і песьні духоўныя.
Эфэз. 5. 18. 19.

---

1925.

## О Прадвечны.



О Прадвечны, Векаісты,
Як праменьня сонца Чысты,
Хай хвалà Твая загляне,
Хай Твая і воля стане!

---

## I/108. Ідзі да Хрыста.



## I/108. Ідзі да Хрыста.

1. Ідзі да Хрыста, прышоў сёньня час!
Чуй Яго голас—Ён кліча нас—
А сэрца як камянь ня будзе у вас,
Кліч Божы мілы нам:

Убачым від нябесны як-бы цуд,
Як адкіням ўсе грахі і блуд,
І станем прад Богам, як прыдзем на суд.
Божа Хрысьце ўжо іду!

2. Ідзі-жа, дзіцятка, ідзі-жа хутчэй!
Сэрца Хрысту аднясі ты барджэй,
У сэрцы Хрыста захавай ты ляпей,
Аддацца душою бяжы!

Убачым від нябесны і т. д.—

3. Вер у Хрыста толькі, слухай і бач:
Як адкідае Ён гора і плач—
Новым жыцьцём ты сябе перайнач,
Ідзі, чалавечэ, ідзі!—
Убачым від нябесны і т. д.—

## 2/109. Сіла ёсьць—Хрыстова кроў.

№ 2/109.

## 2/109. Сіла ёсьць—Хрыстова кроў.

1. Як хочаш граховых пракляцьцяў пазбыцць?
Сіла ёсьць—кроў Хрыста, ёсьць—Божа кроў!

О, прыдзі да Хрыста, каб спакойна мог жыць,
Адпачынак ёсьць у Божай крыві:

Сіла ёсьць--ёсьць і магутнасьць ёсьць—кроў Хрыста, —
Божа кроў;
Сіла ёсьць—ёсьць і пабеда ёсьць
У сьвятое Хрыстовай крыві! —

2. Хацеў-бы грахоў свайго цела пазбыць?
Сіла ёсьць—кроў Хрыста, ёсьць—Божа кроў!
Так сьвятая кроў Божа грахі можа змыць
І абдужаеш іх з той крыві!
Сіла ёсьць—ёсьць і т. д.—

3. Хацеў-бы ты болей быць белым чым сьнег?
Сіла ёсьць—кроў Хрыста, ёсьць—Божа кроў!
Што адмые ад сэрца збалелага грэх,
Ачышчэньня ёсьць ў Божай крыві!
Сіла ёсьць—ёсьць і т. д.—

4. Хацеў-бы з Хрыстом той дарогай ісьці?
Сіла ёсьць—кроў Хрыста, ёсьць—Божа кроў!
Хочаш Божую славу і сьвятасьць нясьці? —
Кожын дзень сільны ты з той крыві!—
Сіла ёсьць—ёсьць і т. д.—

### 3/133. Хрыстос на крыжу.




### 3/133. Хрыстос на крыжу.

1. Я на крыжу вісеў,
Ліў кроў з ран ног і рук,

І вырваць захацеў
Цябе я з ліха мук—
Ня шкадаваў сябе,
А ты, што даў ты мне? —

2. Заўсёды на зямлі
Я сам убогім жыў,
Боль, кроў мая спасьлі—
Каб ты у небі быў!
Я так любіў цябе,
А любіш ты мяне?—

3. На мукі шоў я звыш,
І з ран лілася кроў,
Каб паняськці твой крыж,
Абмыць цябе з грахоў;—
Твой грэх мяне забіў,
А што-ж ты мне зрабіў?—

4. Табе збаўленьне даў,
Развеяў цёмну ноч,
Каб ты шчасьлівым стаў
Прагнаў ліхога проч.
Усё гэта даў табе,
А ты, што даў ты мне?

---

### 4/180. Усё Табе даю.





### 4/180. Усё Табе даю.

1. Усё Табе дарую сёньня,
Усё Тваё тут мусіць быць;
Я хачу Цябе любіці
І з Табою, Божа, жыць!
Усё Табе даю, усё Табе даю—
Усё Хрысту маёму Богу
Сёч[illegible] ё даю !

2. Усё Табе дарую сёньня,
І паклон Табе даю;
Радасьць сьвету забываю,
Пад апеку йду Тваю!
Усё Табе даю і т. д.—

3. Усё Табе дарую сёньня—
Духам Божым ахрысьці,
Каб Тваім я быў заўсёды,
Каб я мог Твой крыж нясьці!—
Усё Табе даю і т. д.—

4. Усё Табе дарую сёньня,
Бо сьвяты Твой чую жар,
Шчыра цешуся Табою,
Бо Твой Божы маю дар!—
Усё Табе даю і т. д.—

---

## 5/250. Зорка з неба.




## 5/250. Зорка з неба.

1. Зорка з неба, ясна зорка,
   Асьвяці мяне—
Бяз цябе на сьвеці горка,
   Сохну бяз цябе...
Як тваё праменьне блысьне—
   Адыходзіць жаль,
І за сэрцо боль ня цісьне—
   Адлятае ў даль.—

2. Доўга, доўга я цягнуўся
   Сьледам блудных зор,
З грэху сьцежкі навярнуўся
   Злу наперакор,

Я у вечную дарогу
Шоўшы грэшна сьніў,
Но цяпер я, дзяку Богу,
Нанава ажыў!—

3. Дзяку Богу, што пакінуў
Нэндзу я сваю,
І з душы і з цела скінуў
Цень няшчасную.
Бо Ты, Божа, сваёй кроўю
Адкупіў мяне,
Яснай зоркаю—любоўю
Прыцягнуў к' сабе!

4. Зорка з неба, зорка ясна
Сьвеціць як-бы сьцяг;
І жыцьця дарога шчасна—
Гэта—ў неба шлях;
Радасьць сьвеціць мне у сэрцы
Зоркай з неба—звыш,
Каб ў нядолі, ў паняверцы
Мог нясьці свой крыж!..

---

**6/256. Госпад Бог любіць.**




**6/256. Госпад Бог любіць.**

1. Госпад Бог любіць! Даў мне збаўленьне
Госпад Бог любіць, любоў дарыць!
Дык засьпяваю: Госпад Бог любіць,
Госпад Бог любіць, любоў дарыць!—

2. Хрыста паслаў Бог мне на збаўленьне,
Хрыста паслаў Бог і спас мяне!
Дык засьпяваю і т. д.—

3. Хрысьце нам мілы—сатры мне сьлёзы!
Хрысьце нам мілы—шкадуеш нас!
Дык засьпяваю і т. д.—

4. Як Ты са мною--вяліка радасьць!
Як Ты са мною—вяселюся!—
Дык засьпяваю і т. д.—

5. Любіць я хочу, Хрысьце мой добры!
Любіць я хочу,—бо любіш Ты!—
Дык засьпяваю і т. д.—

---

### 7/301. Вядзі мяне, мой Божа!




### 7/301. Вядзі мяне, мой Божа!

1. Вядзі мяне, мой Божа,
У дарогу Сам,
Дайсьці мне дапаможаш
Да неба брам!
Я не магу ступіці—
Слабы я адзін,
Ты можаш бараніці
Мяне ад він!

2. Да сэрца міласэрна
Нас прытулі,
Каб мы Табе тут верна
Служыць маглі.

Як ўпадзем мы тварам
Да Тваіх ног—
Міласьць будзе дарам,
Бо Ты наш Бог!

3. Калі-бы нават можа
Аслаблі мы,
Дык Ты, Вялікі Божа,
Схавай ад цьмы!
Вядзі мяне, мой Божа,
У дарогу Сам,
Дайсьці мне дапаможаш
Да неба брам!—

**8/316. Ужо не баюся болей—я ніколі ня сам.**

№ 8/316.

1.

2.

**8/316. Ужо не баюся болей – я ніколі ня сам.**

1. Ужо не баюся болей
Госпад Бог разам са мной,

Сьветам маім Ён і воляй,
Як за слабы я душой!
Сонейко абецаньня
Сьвеціць мне ярка з нябёс—
Божае Госпад каханьне
Людзям на землю прынёс!—
Я ніколі ня сам, я ніколі ня сам!
Госпад Бог абецаў мне: „Нікокі ня будзеш сам

2. Кветка пахучая згіне,
Запах свой страціць яна;
Сонцэ калісьці астыне—
Скончыцца цэла зямля.
Хрыстос ёсьць нашае сонцэ:
З неба Ён сьвеціцца нам—
Сьвеціць у сэрца ваконцэ,
Дык я ніколі ня сам!
Я ніколі ня сам, і т. д.—

3. Хоць па дарогах цёмных
Вораг пільнуець мяне—
Чую, як Госпад бароніць
Нас у яві і сьне.
У гору зьвярну я вочы:
Госпада ўбачу я там—
Дзякаваць Богу захочу,
Што я ніколі ня сам!
Я ніколі ня сам, і т. д.—

---

**9/381. Дзейным будзь, бо ноч прыдзе!**





**9/381. Дзейным будзь, бо ноч прыдзе!**

1. Дзейным будзь, бо ноч прыдзе;—
Хрыстовай грамадой
Ранкам пойдзе работа
Гараньнем і сяўбой!
Вось сонейко загляне
З пад ночнай цемнаты;
Дзейным будзь, бо днець стане,
Каб не спазьніўся ты!

2. Дзейным будзь, бо ўжо палудзень
К' нам прыбліжаецца—
Хай-жа за Божую славу
Усякі змагаецца!
Дзейным будзь серад буры,
Хворых і беднаты,
Дзейным будзь, як ноч прыдзе
Каб не спазьніўся ты!

3. Дзейным будзь, бо ноч прыдзе—
Сонцэ зніжаецца,
Той дачакаецца жніва,
Хто пастараецца,—
Дык аж да самае сьмерці
Бійся з ярмом цемнаты;
Дзейным будзь, бо ноч прыдзе,
Позна ўжо будзе тагды!—

## 10/447. Мой Божа!




## 10/447. Мой Божа!

1. Мой Божа! у Тваіх
Руках жыцьцё маё,
З ахвотай шчырай аддаю
Душу і цела—ўсё!

2. Мой Божа, у Цябе
І доля ўся мая;
Іду туды, куды вядзе
Дарожанька Твая!—

3. Мой Божа, у Тваём
Жаданьні сіла ўся—
Як Ты захочаш—пад Тваёй
Апекай буду я.

4. Мой Божа, у Тваіх
Руках гарыць агонь,
Хай пакіруя мной Твая
Прабітая далонь!—

5. Мой Божа, у Тваёй
Далоні цэлы час,
А як жыцьцё тут скончыцца —
Прымі к' Сабе і нас!—

---

## II/47I. Сьніць аб Бацькаўшчыне мілай...




## II/47I. Сьніць аб Бацькаўшчыне мілай...

1. Сьніць аб Бацькаўшчыне мілай
Дух спрацованы жыцьцём,
Ціша неба цягне сілай,—
Радасьць вечна ў краю том!
    Сны з чужых краёў да родных,
    Бацькаўскіх старон ляцяць,—
    Там у сьветлі зор цудоўных
    Брамы неба зіхацяць.—

2. У Бацькаўшчыне ціша вечна;
Цішу, што ня любіць сьвет—
Нават анял безканечна
Славіць ад пачатку лет.
    Сны з чужых краёў і т. д.—

3. Гэта Бацькаўшчына—неба
Так далёка на пагляд;
Жалю, сьлёзаў там ня трэба—
Я там вечна буду рад!
    Сны з чужых краёў і т. д.—

---

## 12/472. Хрыстос ідзе.




## 12/472. Хрыстос ідзе.

1. Хрыстос Спасіцель ідзе да нас,
Спаткайце людзі, ўставайце ўраз,
На кожным месцы і ў кожны час
Чуйце, Хрыстос к' нам ідзе!—
  Бога чуе наша верна страж,
  Усю малітву прымі, Божа наш,
  Ты дабрату сваю нам пакаж,—
  Усіх нас збяры у адно!—

2. Хрыстос Спасіцель ідзе сюды,
І абароніць нас ад бяды,
Пабагаславіць нашы труды—
Чуйце: Хрыстос к' нам ідзе!—
  Бога чуе наша—і т. д.—

3. Хрыстос ідзе зноў, дружына слыш!
Вочы свае паднімі ты у выш,
Збудзіся грэшны ўсякі, што сьпіш—
Чуй, бо Хрыстос к' нам ідзе!—
Бога чуе наша—і т. д.—

---

# Зьмест сьпеўніка.